У нумары: СЛАЎНЫЯ ЛЮДЗІ ПАДЛЯШША ○ ТРЫВОГА ○ РАПЭПТ СУПРО Ь КУЛЫ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВ

№ 30 (285) | ГОД VII | 29 ЛІПЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР


ВЕСТКІ з БССР

## ЖЫЦЦЕ І СПРАВЫ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

У ходзе камуністычнага будаўніцтва паміж савецкімі людзьмі, і ў прыватнасці паміж моладдзю, складваюцца і развіваюцца новыя адносіны. У рэспубліцы шырокае распаўсюджанне атрымаў рух пад дэвізам: вучыцца, жыць і працаваць па-камуністычнаму. Пад гэтым дэвізам у Беларусі працуе цяпер звыш 400 тысяч камсамольцаў і маладых рабочых.

Камсамольцы і моладзь Беларусі горача адгукнуліся на заклік партыі паехаць ў раёны новабудоўляў і асваення цаліны. Каля 90 тысяч беларускіх хлапцоў і дзяўчат паспяхова цяпер працуюць у Сібіры і на Далёкім Усходзе, на Крайняй Поўначы і на цаліне.

Выдатна таксама працуе беларуская моладзь на ўдарных камсамольскіх пабудовах Беларусі, якіх у рэспубліцы звыш 50.

Шмат сіл і энергіі аддае моладзь Беларусі развіццю сельскай гаспадаркі. Толькі за апошнія два гады ў жывёлагадоўлю пашло працаваць звыш 40 тысяч камсамольцаў і моладзі.

Моладзь Беларусі не толькі добра працуе, але настойліва павышае свой агульнаадукацыйны культурнатэхнічны ўзровень. У гарадах і вёсках

(Працяг на стар. 3)

Мікола АРОЧКА

## ЗЯМЛЯ

Я цябе, здаецца, ведаю спрадвек,
З першых дзён твайго жыцця зялёнага.
Бо з табою разам
рос твой чалавек
З клетачкі да розуму натхнёнага

І ва мне адбіўся
шлях адвечны твой —
Шлях каменны, бронзавы, сталёвы...
Мая памяць,
як папірусу сувой
І як водгалас легенд суровых.

Чалавецтва —
лепш лаўровага вянка
на круглай галаве зямнога шара.
Я ў жывым вянку —
пупышка для лістка,
Трапяткі пялёстак нашай мары.

Для пялёсткаў
даражэй за ўсё спакой
Ды яшчэ вясновы цёплы подых
Не парушце мары,
светлай і зямной
Што спрадвек цвіце
і прагне плоду.

ЖНІВА



Фота М. ТАРАСЕВІЧА

## БЕЛАСТОЧЧЫНА МАЛАКОМ ПЛЫВУЧАЯ

У недалёкай будучыні Беласточчына мае адыграць ролю важнага мяснога і малочнага басейна нашай краіны. Спрыяюць гэтаму шырокія прасторы сенажацяў і пашы, на якіх зараз праводзіцца ўсебаковае загаспадараванне.

Таму важнае месца ў жыцці сялян займае арганізацыя скупкі малака, якою займаецца малочны кааператыў. Зараз налічвае ён у Беластоцкім ваяводстве звыш 100 тысяч членаў. Скупачныя пункты малочнага кааператыва прымаюць штораз больш малака ад сялян. Таму сістэматычна павінны развівацца і малачарні, якія перарабляюць скупленае малако. У апошнім часе ўсе малачарні Беластоцкага ваяводства атрымалі новае тэхнічнае абсталяванне, імпартаванае з ГДР, Галандыі,

(Працяг на стар. 4)



Яны з брыгады камуністычнай працы.

# Трыбуна чытачоў

## ЗА ЛЕПШЫЯ УРАДЖАІ

Сельскагаспадарчы гурток у Новым Ляўкове стварыўся ў мінулым годзе ранняй вясною. Зараз гаспадарыць у ім каля 30 членаў. За час свайго існавання ён шмат чаго зрабіў у вёсцы. Мінулым летам ён купіў агрэгат і рухавік. Гурткоўцы мелі з машын добры даход. У красавіку г. г. гурткоўцы купілі трактар, плугі некалькіскібовыя, культыватар, бульбакапалку, касілку і іншыя машыны. Першы свой трактар гурткоўцы даручылі свайму аднавяскоўцу Янку Харкевічу. Кваліфікацыі ён набыў у войску. Там вадзіў ён танк, цяпер з няменшым поспехам спраўляецца з магутным «Урсусам».

Члены гуртка не забываюць і аб навуцы і шмат чытаюць сельскагаспадарчых кніг. Выдзяляюцца тут М. Баканач, П. Саевіч, М. Скепка і іншыя.

Варта адзначыць вялікую ролю ў працы гуртка нашага аднавяскоўца, агранома М. Марчука. Яго парад ахвотна слухаюць сяляне.

**Янка Цялушэцкі**

## РАЦЭПТ СУПРОЦЬ НУДЫ

(Працяг са стар. 5).

чыць аб тым, што людзі пераконваюцца з цягам часу, калі асабліва ўбачыць на ўласныя вочы дасягненні.

Школа ўдзейнічала на асяроддзе. І вось моладзь пачала іграць у валейбол, скакаць у даўжыню ці ў вышыню. Гэтай праблемай зацікавілася Павятовая рада ЛьЗС у Гайнаўцы, а асабліва грам. Віталіс Новік. І ў Кленіках заснаваўся новы гурток ЛьЗС. Ён ужо з першых дзён свайго існавання прыняўся за работу. Моладзь (маю на думцы, зразумела, дзяўчат і хлопцаў) з вялікай ахвотаю прынялася за трэніроўку. Гурток арганізаваў Грамадскую спартакіяду Тысячагоддзя. Тут варта адзначыць лепшыя вынікі. Сярод жанчын Аня Грыгарук прабегла 60 м за 9,1 мінуты і скочыла ў вышыню 130 см, а Ніна Кавальчук закінула дыск на 20 м. 49 см. Сярод мужчын: Уладзімір Грыгарук дыстанцыю 60 м. прабег за 8,4 мінуты, Мікалай Севастьянюк скочыў у даўжыню 5 м. 40 см., а ў вышыню 1 м. 55 см. Трэніроўкі, якія вядуць лёгкаатлеткі і лёгкаатлеты, напэўна будуць спрыяць лепшым вынікам.

Варта адзначыць, што ЛьЗС арганізаваў турнір па сталоваму тэнісу, дзе найлепшымі аказаліся Ніна Кавальчук і Эдуард Лясота. Цяпер валейбалісты паспяхова вядуць барацьбу на кубак «Дзенніка Людовэго». Яны выйгралі па 3:0 у ЛьЗС Трасцянка і ЛьЗС Ласінка. Сярод іх найлепшымі аказаліся Сцяпан Кот і Янка Антыпюк.

Гурток ЛьЗС мае добрую жаночую секцыю ручнога мяча. Шкада толькі, што яна не мае з кім іграць. Гэтым варта пацікавіцца. Мясцовыя актывісты палажылі шмат намаганняў, каб справы ў нас добра выглядалі. Сярод іх вылучыўся начальнік мясцовай пошты Сцяпан Кот, загадчык школы Эдуард Лясота, фельчар Яўгеній Краўчук і другія.

На нашых вёсках ёсць яшчэ многа таленавітай моладзі. Многа таленавітых малалеткаў пакідае спорт пасля заканчэння пачатковай школы. Тут маюць сур'ёзнае поле дзейнасці ЛьЗС, якія павінны больш зацікавіцца таленавітымі адзінкамі. ЛьЗС можа і павінна выхаваць многа добрых спартсменаў. А разам з гэтым павысіцца спраўнасць і здароўе нашай моладзі. Варта, каб больш гэтай праблемай цікавіліся СПР, там, зразумела, дзе яны існуюць. А павятовыя ўлады павінны арганізаваць спартакіяды СПР.

Добрая праца ЛьЗС, так як гэта бачым на прыкладзе Кленік, гэта яшчэ адна праява культурнага жыцця моладзі. Спаборніцтвы вабяць моладзь на стадыёны і жыццё становіцца больш вясёлым і разнастайным. Каб выгнаць нуду з нашых вёсак, арганізуйма гурткі ЛьЗС.

**Аляксандр Закройшчык**
**Кленікі**

## ЦІ УСЁ ПАВІННА БЫЦЬ У МЯСТЭЧКАХ?

Пачынаючы ад гэтага года, гмінныя спулдзельні «Самапомац Хлопска» прыступілі да інтэнсіўнай разбудовы сеткі ўслуг для сельскай гаспадаркі. У сучасны момант існуе 189 пунктаў прамысловых услуг.

М. ін. існуе 6 шклярскіх майстэрняў, 3 электратэхнічныя варштаты, 7 часальных воўны, 45 бойняў і... 1 радыётэхнічная майстэрня. Малавата, праўда?

Крыху лепш выглядае справа з арганізацыяй пунктаў непрамысловых услуг. Усіх разам налічваецца іх 351 — у тым ліку 33 пазычальні будаўлянага абсталявання і 85 пазычальняў для гаспадынь. Ёсць 46 чышчальняў збожжа і 57 пунктаў хімічнай аховы раслін. Пры 5-ці ПЗГС-ах існуюць лабараторыі для даследаванняў над вільготнасцю, гатункамі і ураджайнасцю збожжа.

На жаль, усе гэтыя пункты ў большасці выпадкаў сканцэнтраваны пры сядзібах ГС-аў. Пераважна ў мястэчках. Але, як гаворыцца, горад далёка і... час не заўсёды ёсць. Ці усё павінна быць у мястэчках? (ся)

## НАША БІБЛІЯТЭКА

Грамадская бібліятэка ў Ласінцы існуе ад 1950 года. Налічвае яна звыш 4000 кніг. Усе яны абложаны белай паперай і ляжаць на полках у дасканалым парадку. У бібліятэцы ёсць 900 беларускіх і 600 рускіх кніжак. Чытачоў — 300. Бібліятэка наша адкрыта чатыры разы ў тыдзень. Можна тут таксама пачытаць «Ніву» і «Зорку». Бібліятэкарам у нас з'яўляецца М. Жукавіцкі. Дзякуючы добрай працы карыстаецца ён у нашай вёсцы агульным прызнаннем.

**Аляксей Данілюк**
Ласінка


## Ніва

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
**Telefony:** red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
**Warunki prenumeraty:** miesiecznie — 2.40 zł. kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmuja wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA
Nakład 5000 Bltk F-3





**Праграма**
**ад 30. VII.—5.VIII. 1962 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Człowiek z za biurka" (włoski), 31.07.—2.08. „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 3—5.

**Клешчэлі**
„Drzwi stoją otworem" (jugosłowiański), 31.07.—2.08. „Gorsza miłość" (węgierski), 3—5.

**Нававады**
„Zuzanna i chłopcy" (polski), 4—5.

**Нараў**
„Statek z dynamitem" (rumuński), 1—5.

**Нараўка**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 1—5.

**Чаромуха**
„Słońce wschodzi nad Bengalem" (pakistański), 31.07.—2.08. „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 3—5.

**Чыжы**
„Salwa o świcie" (radz.), 1—5.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Zwykła historia" (radz.), 1—5.

**Бранск**
„Profesor Malmock" (NRD), 31.07.—2.08. „Majowe gwiazdy" (czeski), 3—5.

**Орля**
„Dotknięcie nocy" (polski), 1—5.

**Райск**
„Zaduszki" (polski), 1—5.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Światła na biegunie" (radz.), 31.07.—2.08. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 3—5.

**Міхалова**
„Z soboty na niedzielę" (angl.), 31.07.—2.08. „Gorsza miłoć" (węgierski), 3—5.

**Супрасль**
„Pierwszy lot w kosmos" (radziecki), 31.07.—2.08. „Herszt" (franc.), 3—5.

**Чорна Весь**
„Wielki balet w Ameryce" (radziecki), 31.07.—2.08 „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 3—5.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„W pięknej Indonezji" (radziecki), 31.07.—2.08. „Portier z Lazurowego Wybrzeża" (franc.), 3—5.

**Мілейчыцы**
„Czekajcie na listy" (radz.), 31.07.—2.08. „Alba Regia" (jugosłowiański), 3—5.

**Нурэц**
„W obronie mojej miłości" (włoski), 31.07.—2.08. „Miłość powraca wiosną" (radz.), 3—5.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 31.07.—2.08. „Tajemnica szyfru" (rumuński), 3—5.

**Сухаволя**
„W krainie białej czapli" (węgierski), 31.07—2.08. „Jewdokia" (radz.), 3—5.

**Шудзялава**
„Dziewiąty krąg" (jugosł.), 1—5.

**Янаў**
„100 kilometrów" (włoski), 31.07.—2.08. „Zmartwychwstanie" (radz.), 3—5.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Wzgórze 905" (jugosł.), 4—5.

**Новы Двор**
„SOS Titanic" (angl.), 4—5.

**Ружаны Сток**
„W środku nocy" (USA), 4—5.

---

**(Працяг са стар. 3).**

Наліваючы чорную каву, Генрык і Заўгель доўга гутарылі на розныя філасофскія тэмы. Потым ад высокіх матэрый размова перайшла на тэмы больш жыццёвыя, на становішча, якое стварылася ў сувязі з актывізацыяй макі. Генрых паўтарыў сваю гатоўнасць дапамагчы Заўгелю, калі спатрэбіцца.

— Я з радасцю скарыстаю з вашых паслуг, барон, але спачатку я хацеў вас папярэдзіць... калі вы дазволіце, зразумела.

— О, прашу!

— Вы паводзіце сябе крыху неасцярожна, барон, і нават лёгкадумна ў выбары сваіх знаёмстваў...

— Што вы гэтым хочаце сказаць?

— А перагляньце ўсе свае схільнасці і скажыце — вы можаце паручыцца за ўсіх?

— Разумею, разумею, дарагі Заўгель, на што вы намякаеце! Дзякую за далікатнасць, але запэўніваю вас, у дадзеным выпадку трэба падыходзіць з іншай меркай! У маіх адносінах з жанчынамі я трымаюся адной — прыгожа гэта жанчына ці не. На мой погляд гэта адзіна мерка, з якой можна падходзіць да жанчын, бо яны, жанчыны, як і ваш звышчалавек, сталць на той бок дабра і зла!

— Вы так думаеце? А калі я скажу, што родны брат мадэмуазель Монікі французскі тэрарыст?

— Не можа быць!

— На жаль, гэта так. Учора на дольце адзін злоўлены макі паведаміў мне гэту цікавую падрабязнасць з біяграфіі мадэмуазель. Не выключана магчымасць, што і яна сама...

— Фу, як непрыемна! І добра, што вы мяне папярэдзілі! Трэба будзе прыглядзецца да яе...

— Я ўстанавіў за ёю нагляд ужо даўно — маю ўвагу прыцягнула тое, што яна надта часта ездзіць на электрастанцыю, нібы да свайго нарачонага, які там працуе слёсарам. Той макі, якога я дапытваў, працуе таксама на электрастанцыі. Ён кажа, што гэтыя сустрэчы нічога супольнага не маюць з каханнем.

— Я першы раз чую, што ў яе ёсць нейкі нарачоны. Дык вось чым тлумачыцца яе непрыступнасць! Не, гэта проста камічна, што маім сапернікам можа быць нейкі слёсар! Барон і слёсар! Ведаеце што, Заўгель, зрабіце мне прыемнасць, дазвольце пагаварыць з гэтым макі!

— Гэта вельмі лёгка зрабіць, але не сёння: ён згадзіўся даваць мне інфармацыю, і я ўчора адпусціў яго. Калі ён з'явіцца, я паведамлю вас.

— Прыкінуўцца такою наіўнай, скромнай... Ніколі не думаў, што жанчына можа так мяне ашукаць!

— Я хачу папярэдзіць вас, барон: усё, што я сказаў, пакуль наша з вамі тайна. Нават Мілер не ведае пра мае падазрэнні. Мы з вамі самі праверым, маюць яны нейкую падставу ці не.

— Я лічу справай гонару дапамагчы вам у гэтым. І спадзяюся, што змагу хутка адудзячыцца вам, што вы адкрылі мне вочы.

Генрых развітаўся і пайшоў у гасцініцу.

Так, змагацца давядзецца, гэта ясна. І паядынак з Заўгелем у яго будзе зацяты. Калі той ўжо схапіўся за нітачку, якая ідзе ад клубка, то рана ці позна, а нітачка прывядзе яго да праўды. Калі яе не перарэзаць адразу!

**(Працяг за тыдзень)**

147 148 149

